*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 24 (563)** **26 ЧЭРВЕНЯ 2002 г.**

**UNESCO,**
**Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Белдзяржпедуніверсітэт імя М. Танка, Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа НАН Беларусі, Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры**
Грамадскія аб'яднанні
**"Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" і "Таварыства беларускай школы" пры падтрымцы Міністэрства адукацыі і Нацыянальнай камісіі па справах UNESCO**

**Круглы стол:**
***"Мова і адукацыя, падручнікі, методыкі і дапаможнікі"***

**Менск, 19 чэрвеня, Нацыянальны інстытут адукацыі (вул. Караля, 16)**

## *Рэзалюцыя*

Мы, удзельнікі "круглага стала", абмеркаваўшы стан і перспектывы беларускамоўнай адукацыі на сучасным этапе, заяўляем пра аб'яднанне намаганняў дзяржаўных і грамадскіх структураў па выкананні Закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" і Пастановы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" № 48 ад 27. 08. 01 г.

***У сувязі з гэтым лічым неабходным***

1. Ажыццявіць ва ўсіх раёнах абласных гарадоў Беларусі набор у падрыхтоўчыя беларускамоўныя класы школ.
2. Аднавіць абавязковы экзамен па беларускай літаратуры ў сярэдніх агульнаадукацыйных школах.
3. Стварыць беларускамоўныя студэнцкія групы ў Менску і ва ўсіх рэгіянальных універсітэтах Беларусі.
4. Прапанаваць Міністэрству адукацыі распрацаваць праграму "Беларускамоўны падручнік для ВНУ".
5. Белтэлерадыёкампаніі ўключыць у план тэлеперадач цыкл навучальных праграм па беларускай мове і літаратуры.

## *Шаноўная рэдакцыя!*

Мы звяртаемся да вас з прапановай надрукаваць наш ліст у вашай газеце. Мы вельмі незадаволены тым, што на радыё і тэлебачанні вельмі мала ўвагі ўдзяляецца 120-годдзю Я. Купалы. Нас здзіўляе, чаму так мала перадач выходзіць на радыё, прысвечаных вядомаму песняру, публіцысту, народнаму паэту Беларусі Я. Купалу. Таму мы вырашылі напісаць, як гэта свята адзначалі ў нашым класе.

Вучні нашага 9 "Б" класа падрыхтавалі планы-праекты і артыкулы пра Я. Купалу. Мы правялі навуковую канферэнцыю па тэме: "Нашы праекты святкавання 120-годдзя Купалы". Прагучалі такія паведамленні:

1. План-праект "Святочная вечарына ў гонар юбілею Купалы ў Вялікім тэатры оперы і балету.
2. План-праект "Канферэнцыя "Купала-публіцыст", "Купала і "Наша Ніва", "Артыкул "Незалежнасць і наш час" і іншыя.
3. План праект "Купала і музыка". Мастацкая галерэя – ілюстраванне твораў Купалы нашымі вучнямі.
4. План-праект "Святочны горад у гонар юбілею паэта".

Акрамя таго, нашы вучні Бурко Сяргей, Ліпніцкая Вольга і Шабанаў Анрэй падрыхтавалі выразнае чытанне вершаў Купалы, як паэма "Курган", "Я ад вас далёка", "У Купальскую ноч", і інш.

У кожным выступленні гаварылася пра тое, што Я. Купала неад'емная частка беларускай літаратуры, сімвал Беларусі, голас народа, што яго творчасць неадрыўна звязана з родным краем.

Мы лічым, што неабходна стварыць цыкл літаратурных і літаратурна-музычных праграм па такіх творах Купалы, як "Курган", "Бандароўка", "Безназоўнае", адрыўкі са спектакляў па п'есах пісьменніка "Паўлінка", "Раскіданае гняздо" і іншыя. Кожная перадача беларускага тэлебачання і радыё, на нашу думку, павінна пачынацца купалаўскімі радкамі, напрыклад, такімі:

**"Займай Беларусь, маладая мая, свой пачэсны пасад між народамі!"**

Нам хацелася, каб паказваліся тэлефільмы, прысвечаныя Купалу, тэлеспектаклі па яго п'есах і паэмах.

Мы спадзяёмся, што вы надрукуеце наш ліст.

***Вучаніцы 9"Б" класа, СШ №1 69: Канакова Анастасія, Ліпніцкая Вольга, Ганчарова Даша, Тозік Святлана, а таксама Бурко Сяргей і Шабанаў Андрэй.***




## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Сабалеўскі Ант., г. Масква - 500 рас. р.
2. Барташэвіч Валера, г.Менск - 1000
3. Вашкевіч Ігар, г.Менск - 2000
4. Мартынаў Мікола, г. Менск - 2000
5. Сабаленка Алесь, г. Менск - 4000
6. Цярохін Уладзімір, г. Менск - 5000
7. Варанцоў Міхась, г. Менск - 6000
8. Незнаёмка - 1000
9. Беларус - 5000
10. Новікаў У. Н. - 1000
11. Казлоўская І. І. - 1000

Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

## *Да юбілею Зоры Кіпель*

**Шаноўная спадарыня Зора!**



Таварыства беларускай мовы сардэчна віншуе Вас з слаўным юбілеем. У гэты святочны для Вас і для ўсіх, хто Вас ведае, дзень мы выказваем шчырыя словы захаплення Вашым жыццёвым вычынам. Змушаная да выгнання з роднай зямлі, Вы засталіся адданая сваёй Бацькаўшчыне, не разгубіліся ў чужой краіне, знайшлі моц і натхненне разам са сваім верным спадарожнікам жыцця Вітаўтам працаваць на карысць сваёй Радзімы і зрабіць важкі ўнёсак у скарбонку беларускай навукі і культуры.

Прыемна ўсведамляць, што нашыя сэрцы б'юцца ва ўнісон, нашыя сімпатыі ўзаемныя.

Шчыры дзякуй за сталую падтрымку Таварыства. Жадаем Вам жыццёвага аптымізму, цеплыні і пяшчоты ў сям'і ды сяброўскім асяродку. Заўсёды радыя сустрэчы з Вамі на роднай беларускай зямлі.

*З павагайСтаршыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.*

## Вечарына памяці айца Яна Матусевіча

22 чэрвеня ў касцёле Св. Сымона і Алены ў Менску адбылася вечарына, прысвечаная памяці айца Яна Матусевіча. Ушанаваць яго сабраліся вернікі-ўніяты амаль што ўсіх беларускіх парафій. Адбылася багаслужба, якую вёў айцец Андрэй. Адбыўся прагляд тэлефільма, прысвечанага айцу Яну, яго выступу на беларускім тэлебачанні, дзе ён распавядае пра ўдзел у працы ТБМ.

Ян Матусевіч быў адным з заснавальнікаў новай беларускай уніяцкай царквы і адным з заснавальнікаў ТБМ, да канца дзён заставаўся сябрам Рэспубліканскай Рады ТБМ. Старшыня ТБМ Алег Трусаў, згадваючы пра айца Яна, адзначыў, што Ян Матусевіч у цяжкі час пасля пераходу газеты "Наша слова" ў горад Ліду аказаў ёй значную фінансавую падтрымку.

***Наш кар.***

## Замаўляйце беларускія песні

Апошнім часам сталі звыклай з'явай вулічныя музыкі на вуліцах нашых гарадоў, дакладней, у падземных пераходах. Часцей за ўсё такім чынам самавыяўляецца ці спрабуе зарабіць нейкую капейчыну моладзь. Мінакі прабягаюць паўз іх, спяшаючыся па сваіх справах, толькі нямногія схіляюцца да гітарнага футарала ці пластыкавай торбачкі, каб пакласці паперку. А песні гучаць, аддаючыся гулкім рэхам і ажыўляючы гэтае не вельмі ўтульнае месца, якое прадуваецца ўсімі сразнякамі. Якія песні? Ці даводзілася вам чуць што-небудзь беларускае?

Я хачу звярнуцца з прапановай да ўсіх прыхільнікаў беларускай мовы: давайце агучым пераходы беларускімі песнямі. Зрабіць гэта вельмі проста. Юныя таленты падземных пераходаў не жабруюць, яны выконваюць песні, якія нехта замовіў. Замаўляйце беларускае! Я рэдка бываю ў горадзе, але ўжо праверыла – метад спрацоўвае. Кароткая замінка, ад нечаканай просьбы, а потым ў большасці нешта адшукваецца ў рэпертуары, і я задаволена крочу далей у суправаджэнні прыемнай беларускай мелодыі. А калі не, я прапаную аванс, каб наступным разам беларуская песня была напагатове. Можна канкрэтызаваць, у залежнасці ад вашага густу, будзе гэта народная мелодыя, апрацоўка "Песняроў" або нешта больш сучаснае і папулярнае.

Беларускія песні зараз рэдка гучыць у дзяржаўных канцэртных залах, амаль няма ў продажы аўдыёкасет з беларускімі запісамі, дык няхай хоць "падземныя" выканаўцы сагрэюць мілагучным беларускім словам гулкія скляпенні, там жа прахадзіць столькі народу.

Шаноўныя прыхільнікі беларушчыны, замаўляйце беларускія песні!

***Валянціна Гракун,***
***г. п. Бешанковічы.***

## Абвестка

Гімназія № 4 г. Менска з беларускай моваі навучання абвяшчае набор у падрыхтоўчыя – 11 класы з агульнаэстэтычным ухілам, а таксама па профілях фізіка-матэматычным, хіміка-біялагічным, эканамічным і філалагічным.

**Адрас:** Кунцаўшчына, 18, тэл. 215-33-82, 258-49-74, 258-49-71 (прыёмная).



№ 24 (563) 26 ЧЭРВЕНЯ 2002 г. Наша слова

# Дзейнасць Таварыства беларускай мовы па пашырэнні беларускамоўнай адукацыйнай прасторы ва ўмовах глабалізацыі

***ТБМ з'яўляецца адной з самых масавых і ўплывовых недзяржаўных арганізацый у Рэспубліцы Беларусь, якая налічвае зараз прыкладна 10,5 тысяч чалавек. На сённяшні дзень зарэгістравана 60 рэгіянальных структур ТБМ у розных гарадах Беларусі. Акрамя таго, суполкі ТБМ дзейнічаюць у розных вёсках і мястэчках, а таксама ў шэрагу краінаў свету (сярод іх ЗША, Канада, Расія, Польшча, Англія, Украіна, Літва, Латвія, Германія і інш.).***

Сябры ТБМ добра разумеюць, што пашырэнне сферы беларускай мовы ў сістэме адукацыі, гэтак сама, як і жаданне яе вывучаць, наўпрост залежыць ад таго, наколькі яна запатрабаваная дзяржавай і грамадствам (прыклад – чэмпіянат па футболе). На жаль, пакуль у Беларусі прыярытэт аддаецца іншым мовам. Таму Таварыства лічыць сваім абавязкам уплываць на сітуацыю, своечасова рэагаваць на ўсе праявы вынішчэння беларускай мовы, карыстаючыся пры гэтым самымі рознымі законнымі метадамі і сродкамі (згадаю, як за кароткі тэрмін, дзякуючы актыўнасці сяброў ТБМ, у аўтаматызаваную службу дакладнага часу г. Менска была вернута родная мова).

Пачынаючы з 1999 года, ТБМ аднавіла цесныя кантакты з кіраўніцтвам розных міністэрстваў, дзяржаўных і недзяржаўных структур, СМІ з мэтай надання беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай. (Спашлюся толькі на вынікі нашых кантактаў толькі з Міністэрствам сувязі.)

Сёлета Таварыства беларускай мовы займаецца працай па стварэнні кампутарнай праграмы па кадэфікацыі і праграмы для праверкі арфаграфіі ў руска-беларускіх перакладах і пытаннем спадарожнікавага тэлебачання на беларускай мове. Нядаўна мы правялі "круглы стол" па тэме "Беларуская мова. Інтэрнэт і кампутар", які паказаў, што ў нас шмат напрацовак у сферы ўкаранення беларускай мовы ў праграмнае забеспячэнне. Як высветлілася, з прычыны кампутарнай непісьменнасці ўладных структураў гэтыя напрацоўкі, на жаль, застаюцца незапатрабаванымі. І наш клопат – змяніць сітуацыю ў лепшы бок.

Нашы дзеянні праектуюцца і на моўную сітуацыю ў адукацыі. Праца ТБМ па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі палягае зараз на выніках апошняга перапісу насельніцтва Беларусі 1999 года, паводле якога 73,7% нашых грамадзян лічаць беларускую мову роднай і 36,7% з іх карыстаюцца ёю ў штодзённым жыцці. А гэта, між іншым, насельніцтва такой еўрапейскай краіны як Літва!

Галоўная наша задача – змусіць працаваць у рэальнасці новую рэдакцыю "Закона аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", асабліва Артыкулы 5 і 32 гэтага закона, а таксама Пастанову № 48 ад 27 жніўня 2001 Міністэрства адукацыі Беларусі года, накіраваную на пашырэнне беларускамоўнай адукацыі у розных тыпах навучальных установ Беларусі. У сувязі з гэтым усе структуры ТБМ уключыліся ў працу з рэгіянальнымі кіраўнікамі аддзелаў адукацыі і кіраўнікамі вышэйшых навучальных установ з мэтай высвятлення хады рэалізацыі на месцах вышэйзгаданага Закона і нарматыўнага дакумента.

Першым на гэтую Пастанову адгукнуўся Менгарвыканкам, які адразу пасля яе выхаду ў верасні мінулага года прыняў рашэнне аб адкрыцці ў цэнтры горада на праспекце Ф.Скарыны беларускамоўнай гімназіі на базе 23 сярэдняй школы.

Таварыства даслала лісты з канкрэтнымі прапановамі ў кожны аблвыканкам. Адказы атрымалі ад усіх. Найлепшыя справы былі ў Віцебскім абласным аддзеле адукацыі, дзе раней за іншыя быў прыняты падрабязны план мерапрыемстваў па рэалізацыі вышэйзгаданай Пастановы Міністэрства адукацыі, а ў Віцебску адчынілася беларускамоўная гімназія.

Акрамя гэтага былі накіраваны запыты аб ходзе выканання Пастановы № 48 у 93 раённыя і гарадскія аддзелы адукацыі і на сённяшні дзень атрымана 37 адказаў. Так, на Гарадзеншчыну даслана 17 запытаў і атрымана 9 адказаў, на Віцебшчыну – 16, атрымана 6, на Меншчыну – 18, атрымана 5, на Берасцейшчыну – 12, атрымана 6, на Гомельшчыну – 12, атрымана 5, на Магілёўшчыну – 18, атрымана 6.

Адказы сведчаць, што найбольш беларускамоўных сярэдніх навучальных установ захавалася на Меншчыне, дзе лідэрства належыць Капыльскаму і Клецкаму раёнам. Тут амаль усе школы, за выключэннем адной, маюць статус беларускамоўных.

Сярод раёнаў Брэсцкай вобласці ў лепшы бок вылучаецца шматлюдны Столінскі раён, дзе з 58 школ з беларускай мовай навучання 49, 6 – з дзвюма мовамі навучання і 3 – з рускай мовай навучання.

Самае сумнае відовішча – на Магілёўшчыне, радзіме братоў Гарэцкіх і першага прэзідэнта Беларусі. Фактычна ў большасці раённых цэнтраў, у тым ліку і ў старажытным Мсціславе, дзе праходзілі апошнія святкаванні Дзён беларускай пісьменнасці і друку, адсутнічаюць не толькі беларускамоўныя школы, але і класы.

Нашы запыты змусілі кіраўнікоў раённых аддзелаў адукацыі звярнуць увагу на прынятую ўжо амаль год назад Пастанову № 48, але ў адказах з Буда-Кашалёва, Расонаў і Мёраў гэты дакумент нават не згадваецца і магчыма там раней аб ім нават не ведалі. Высветлілася таксама і тое, што некаторыя кіраўнікі не разумеюць або не жадаюць разумець сутнасці Закона аб мовах (глава 3, арт. 23). Напрыклад, у Чавусах беларускі клас будзе адкрыты пры ўмове, калі таго пажадаюць бацькі. Яшчэ больш дзіўна, што такой жа думкі прытрымліваецца кіраўніцтва Гарадзенскага аблвыканкаму.

Аднак у большасці адказаў ёсць падрабязныя планы рэалізацыі вышэйзгаданай пастановы. Тут варта адзначыць працу гарадскога аддзела адукацыі ў Гомелі, і раённых аддзелаў у Віцебску і Горадні, а таксама Бешанковіцкага ды Шумілінскага РАА.

Некаторыя з гэтых адказаў надрукаваныя, альбо будуць надрукаваныя ў газеце ТБМ "Наша слова". Аднак з верасня гэтага года ў Беларусі, за выключэннем Савецкага раёна Менска ды Бешанковіцкага раёна, не пачне працаваць ніводная новая беларускамоўная школа ці гімназія. Гаворка можа ісці толькі пра асобныя класы ці дзіцячыя садкі.

Пасля ўводу ў дзеянне новай рэдакцыі "Закона аб адукацыі" ТБМ накіравала запыты аб яго рэалізацыі ў частцы адкрыцця беларускамоўных студэнцкіх групаў ці плыняў, а таксама вышэйзгаданай Пастановы Міністэрства адукацыі рэктарам 20 дзяржаўных і 12 недзяржаўных ВНУ. Адказы пакуль мы атрымалі адпаведна з 16-ці і 3-х вышэйшых навучальных установ.

Флагманам адраджэння беларускасці сёння з'яўляецца Беларусі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М. Танка. Яшчэ 25 траўня 2000 г. яго вучоная рада зацвердзіла перспектыўную праграму падтрымкі беларускай мовы. На беларускай мове тут вядзецца адукацыя на факультэце даўніверсітэцкай падрыхтоўкі, створаны беларускамоўныя плыні на факультэтах матэматычным, фізічным і народнай культуры, а на факультэтах прыродазнаўства, педагогікі і методыкі пачатковага навучання ёсць беларускамоўныя студэнцкія групы.

26 красавіка гэтага года былі зацверджаны мерапрыемствы па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў вучэбна-выхаваўчым працэсе Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны. У адпаведнасці з імі з верасня гэтага года на спецыяльнасці "Беларуская філалогія" для студэнтаў першага курса ўсе дысцыпліны, акрамя рускай мовы і літаратуры ды замежнай мовы, будуць выкладаца па-беларуску. Акрамя таго, на розных факультэтах з верасня па-беларуску будуць выкладацца 75 розных курсаў і спецкурсаў у асноўным гуманітарнага профілю. Значная колькасць прадметаў выкладаецца па-беларуску ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і Менскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце.

Ёсць беларускамоўныя студэнцкія групы на гістарычных факультэтах БДУ і Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. У астатніх ВНУ беларускамоўных групаў няма, і з верасня гэтага года яны ствараца не будуць. Пры гэтым кіраўнікі ВНУ, як і, дарэчы, дырэктары школ, не вядома па чыёй ініцыятыве робяць розныя апытанні сярод бацькоў, вучняў і студэнтаў, прымушаючы іх пісаць заявы з просьбай навучаць сваіх дзяцей па-беларуску. Гэтая заганная практыка цалкам пярэчыць Закону аб адукацыі, дзе ў артыкуле 5 гаворыцца аб тым, што заявы аб навучанні дзяцей на сваёй роднай мове пішуць толькі прадстаўнікі небеларускіх нацыянальных супольнасцяў.

Беларусь, мабыць, адзіная незалежная краіна ў свеце, дзе прадстаўнікі тытульнай нацыі, што складаюць больш 80% насельніцтва, павінны прыніжана пісьмова прасіць улады, каб дазволілі іх дзецям вучыцца па-беларуску. А ім кажуць, збярыце 20-25 заяў, тады будзеце вучыцца, а калі не збярэце, то нічога не атрымаецца. Нават у сталінскія часы такога ліягвацыду ў Беларусі не было. Тады ў Менску побач з рускай стаяла беларуская школа і бацькі адразу ведалі, куды весці вучацца сваіх дзяцей.

Вельмі нашкодзіла развіццю беларускамоўнага навучання адмена абавязковага экзамену па беларускай літаратуры. Як паведаміла "Рэгіянальная газета" 31 траўня 2002 г. у школах Меншчыны і Гарадзеншчыны ў гэтым годзе беларускую літаратуру выбіраюць, як абавязковы экзамен, толькі, у сярэднім, па 3 чалавекі з класа, а то і менш. Таму Міністэрства адукацыі павінна тэрмінова выправіць гэтую недарэчнасць і ў наступным навучальным годзе вярнуць экзамен па беларускай літаратуры ў лік абавязковых.

Наша ліставанне сведчыць, што прычыны дрэннага становішча з распаўсюдам беларускай мовы выкліканы недасведчанасцю канкрэтных адказных дзяржаўных чыноўнікаў.

Таму я прапаную ўдзельнікам наступную рэзалюцыю:

**Рэзалюцыя**

*Мы, удзельнікі "круглага стала", абмеркаваўшы стан і перспектывы беларускамоўнай адукацыі на сучасным этапе, заяўляем пра неабходнасць аб'яднання намаганняў дзяржаўных і грамадскіх структураў па выкананні Закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" і Пастановы № 48 ад 27. 08. 01 г. Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі"*

*У сувязі з гэтым неабходна:*

- *ажыццявіць набор у першыя беларускамоўныя класы школ, вызначаных Міністэрствам адукацыі, ва ўсіх раёнах абласных гарадоў Беларусі;*
- *стварыць беларускамоўныя студэнцкія групы ва ўсіх рэгіянальных універсітэтах Беларусі.*

***Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Алег Трусаў.***

## Памёр уладыка Мікалай



На мінулым тыдні ў Канадзе на 86-м годзе жыцця памёр першагерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Уладыка Мікалай. Вечная памяць.

## *Прашу слова!*

З'яўляюся сталым чытачом газеты "Наша слова". Вельмі удзячны газеце за публікацыю цікавых, карысных, пазнавальных матэрыялаў па гісторыі, краязнаўству і іншых тэмах. Заўсёды актуальныя вашы матэрыялы аб падзеях у рэспубліцы і за яе межамі.

Падтрымліваю актыўную пазіцыю газеты ў змаганні за нашу мову, яе адраджэнне і трывалае ўсталяванне ў жыцці нашай Радзімы.

Выдатна разумею складанасць гэтай справы ў наш час, цяжкасці, якія вам даводзіцца пераадольваць.

Разам з тым хачу выказаць некаторыя прапановы па змесце вашага выдання.

Паважаныя! Жыццё – гэта не толькі і не заўсёды барацьба і змаганне. Яно, як вядома, больш разнастайнае і шматграннае. Так і нашай газеце, на мой погляд, неабходна больш займальнасці і забаўляльнасці. Зразумела, я не прапаную друкаваць пазбаўленыя ўсялякага сэнсу коміксы або байкі аб страхоцьцях. Аднак упэўнены ў неабходнасці з дастатковай перыядычнасцю друкаваць як мага больш разнастайныя займальныя і забаўляльныя матэрыялы. Чаму б не практыкаваць публікацыю ў кожным нумары па адной віктарыне або крыжаванцы на гістарычную, літаратурную або моваазнаўчую тэму.

Напрыклад пад такім звычайным загалоўкам "Ці ведаеш ты гісторыю?" Дзякуючы гэтаму, вы актывізуеце зваротную сувязь з вашымі чытачамі, далучыце да сваіх шэрагаў большую колькасць людзей, асабліва школьнікаў, навучэнцаў, студэнтаў, якім цікава праверыць свае веды, прадэманстраваць іх перад сваімі аднагодкамі. Магчыма цікавасць вызвала б і інфармацыя рубрык "З архіваў" або "Наш архіварыюс", "Гэты дзень сто гадоў назад " і інш.

Вельмі надзённымі і актуальнымі мне падаецца і аб'яўленне газетай конкурсу на самы цікавы расповед аб сваім радаводзе. Справа гэта вельмі патрэбная.

Магчыма дэвізам гэтага конкурсу былі бы словы: "Калі не ведаеш адкуль прыйшоў, то не ведаеш куды пойдзеш". Упэўнены, што знойдуцца чытачы, асабліва сярод школьнікаў, студэнтаў ды і людзей больш сталага ўзросту, якія будуць шукаць свае карані, прысылаць све радаводы. Зразумела, гэтыя іх даследванні сваіх продкаў будуць не прафесійныя, няпоўныя, часам наіўныя. Але справа пойдзе. Не можа не пайсці. Цікавасць да сваіх продкаў ніколі не знікае і не знікне. Гэта ж такая карысць для ўсіх.

Лічу таксама абсалютна не выключанай неабходнасць друкавання на старонках газеты (відаць на 4-ай ) гумарыстычнай інфармацыі, кароткіх апавяданняў, баек, вершаў, анекдотаў. Пачуццём гумару, дасціпнасцю, уменнем смяяцца з самога сябе здаўна ганарыўся наш слаўны народ.

Не ўпэўнены, але таксама відаць ёсць неабходнасць акрамя афіцыйных аб'яў, запрашэнняў на разнастайныя імпрэзы і г. д. друкаваць прыватныя аб'явы (платныя) аб наяўнасці або неабходнасці набыцця той ці іншай кнігі, падручніка, праграмы, дыскеты, касеты і г. д.

***Васіль Сергіевіч , Янук Сергіевіч.***

ГОМЕЛЬСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

Аддзел адукацыі і па справах моладзі

246000, г. Гомель, вул. Сялянская, 14
Тэл. 53-21-20, 53-04-68
Р/рахунак 3730003790035
Філіял 301 АСБ "Беларусбанк"



ГОМЕЛЬСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

Отдел образования и по делам молодежи

246000, г. Гомель, ул. Крестьянская, 14
Тел. 53-21-20, 53-04-68
Р/счет 3730003790035
Филиал 301 АСБ "Беларусбанк"

**Сп. Трусаву А. А.**
**Старшыні грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"**

Паважаны Алег Анатолевіч!

Выказыываем Вам асабіста, а таксама ўсім сябрам ТБМ імя Ф.Скарыны вялікую падзяку за шчыраванне на ніве нацыянальнага адраджэння, за клопат аб развіцці беларускай мовы ў сённяшнім грамадстве.

Гомельскі гарадскі аддзел адукацыі прыкладае намаганні па наданні беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай. У горадзе вядзецца праца па выкананні "Пастановы Міністэрства адукацыі" № 48 ад 27.08.2001 г. Дасылаем пералік мерапрыемстваў, распрацаваных аддзелам адукацыі па гэтай праблеме.

**З павагай загадчык Гомельскага гарадского аддзела адукацыі Л. Ф. Кузняцова.**

# ПРАГРАМА

**дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі г. Гомеля**

| Мерапрыемствы | Тэрмін выканання | Адказныя |
|---|---|---|
| **I. Арганізацыйныя мерапрыемствы.** | | |
| 1. Прааналізаваць моўны рэжым ува ўсіх тыпах навучальных установ. | Да 1 верасня 2002г. | Аддзелы адукацыі |
| 2. Пашырыць сетку школ з арганізацыяй навучальна-выхаваўчага працэсу на беларускай мове. | З 2002-2003 навучальнага года | Аддзелы аадукацыі |
| 3. Ажыццявіць паступовы перавод на беларускую мову візуальнай інфармацыі ў навучальна-выхаваўчых установах. | З 2002-2003 навучальнага года | Кіраўнікі ўстаноў |
| 4. Пашырыць вядзенне справаводства на беларускай мове. | З 2002 г. | Аддзелы адукацыі |
| 5. Забяспечыць ужыванне беларускай мовы пры правядзенні сходаў, нарад пасяджэнняў, педагагічных радаў школ і дзіцячых дашкольных установ. | Пастаянна | Кіраўнікі ўстаноў адукацыі |
| 6. Развіваць разнастайныя формы пазакласнай работы па беларускай мове і літаратуры: факультатывы, гурткі, літаратурныя студыі і г. д. Пашырыць сетку фальклёрных калектываў, гурткоў па вывучэнні беларускай народнай творчасці ў школах і пазашкольных установах. Практыкаваць правядзенне ў вучнёўскіх калектывах беларускіх абрадавых урачыстасцяў, вечароў песні і танцу, нацыянальнай фальклёрнай музыкі, гутарак, лекцый і іншых мерапрыемстваў аб мінулым Беларусі, гісторыі яе культуры, мовы. | Пастаянна | Кіраўнікі ўстаноў адукацый |
| 7. Пашырыць сетку школьных літаратурных, краязнаўчых, этнаграфічных, музеяў вядомых дзеячоў беларускай культуры. | Пастаянна | Аддзелы і ўстановы адукацыі |
| **II. Сістэма дашкольнага выхавання.** | | |
| 1. Пашырыць сетку дзіцячых дашкольных установ з беларускай мовай выхавання і навучання. Забяспечыць у іх выхаваўча-навучальны праацэс, вядзенне справаводства і дакументацыі на беларускаай мове. | 2002-2003 навучальны год | Райаа |
| 2. Вызначыць у кожным раёне апорныя дашкольныя ўстановы з арганізацыяй комплекснай работы па развіцці беларускай мовы, азнаямленні дзяцей з культурнай спадчынай Беларусі. Распрацаваць перспектыўны план развіцця беларускамоўных апорных дашкольных установ. | З 2002-2003 навучальнага года | Райаа |
| 3. Прыняць меры для поўнага забеспячэння дашкольных установ, якія ажыцяўляюць працэс выхавання на беларускай мове, выхаваўча-метадычнай літаратурай. | Пастаянна | Райаа |
| **III. Сістэма школьнай адукацыі.** | | |
| 1. Пашырыць сетку агульнаадукацыйных школ з беларускай мовай навучанія. У кожныым раёне адкрыць не менш адной школы з беларускай мовай навучання. | З 2002-2003 навучальнага года | Аддзелы адукацыі |
| 2. Прысвойваць лепшым школам горада ганаровае званне "Узорная беларускамоўная школа" | 2001-2005 г. | Аддзелы адукацыі |
| 3. Павялічыць колькасць школ і класаў з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы і літаратуры, укамплектаваць іх высокакваліфікаванымі кадрамі, вучэбнай і метадычнай літаратурай. | 2001-2004 г. | Аддзелы адукацыі |
| **IV. Сістэма пазашкольнай работы.** | | |
| 1. Прыняць удзел у рабоце Усебелаарускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў "Наш край". | красавік 2002 г. | Выхаваўчы сектар аддзелаў адукацыі |
| 2. Арганізаваць метадычную выставу творчых прац і даследванняў педагогаў і навучэнцаў горада па краязнаўству і беларусазнаўству. | люты 2003 г. | Выхаваўчы сектар аддзелаў адукацыі |
| 3. Правесці кункурс на лепшы метадычны матэрыял па краязнаўству. | кастрычнік-сакавік | Выхаваўчы сектар аддзелаў адукацыі |
| 4. Працягваць гарадскі конкурс па гомелезнаўству "Горад над Сожам" | кожны год верасень-кастрычнік | Выхаваўчы сектар аддзелаў адукацыі |

## Святочны горад у дзень юбілею Я. Купалы!

7 ліпеня 2002 г. уся Беларусь будзе адзначать 120 год з дня нараджэння Я. Купалы. У гэты дзень усё павінна быць абавязкова прыбрана па-святочнаму. Увесь праспект Скарыны, а таксама вул. Я. Купалы будуць упрыгожаны партрэтамі вялікага песняра і плакатамі са словамі: "Паэзія Купалы – гэта квітнеючы сад," "Купала – прарок народны" "Купала - гонар нацыі" і інш

У вітрынах будынкаў,што прылягаюць да паспекта будзе выстаўлена шмат выдатных кніг, якія праславілі Я. Купалу на ўвесь свет.

Ля кніжных крамаў будуць стаяць адкрытыя прылаўкі, дзе дзяўчаты ў нацыянальных уборах будуць прадаваць томікі вершаў Купалы і зборнікі розных яго твораў, значкі з выявай паэта, каляндарыкі і паштоўкі, прысвечанныя яго родным мясцінам: Вязынцы, Ляўкам, Лагойшчыне. Купалаўскае свята на наш погляд працягвалася б да позняга вечара, таму вельмі добра было б упрыгожыць праспект Скарыны рознакаляровымі ліхтарыкамі, а закончыць дзень павінен святочны феерверк.

*Святлана Тозік, вучаніца 9"Б" класа СШ № 169.*

# Леваніду Каралю споўнілася б 80

*... Няма ні вечных кратаў, ні шляхоў,*
*Адбудзецца, чаму ўжо час адбыцца...*
*Ігар Пракаповіч.*

У сакавіку ў Таварыстве Беларускай Культуры адзначылі 80-годдзе Лявона Луцкевіча, а ў траўні – Леваніда Караля. Абодва яны нарадзіліся ў 1922 годзе. Сябравалі сем'ямі да апошніх дзён жыцця, уваходзілі ў раду ТБК, былі актыўнымі сябрамі, пачынальнікі беларускага адраджэння ў Літве, высокаадукаваныя асобы. 80 г. Леваніда Караля адзначалі на радуніцу, наведалі могілкі на Ліпоўцы, дзе спачывае Леванід Сымонавіч, там пахаваны яго бацькі (бацька-выкладчык музыкі Віленскай Беларускай Гімназіі, кіраваў і хорам). Нарадзіўся Леванід Кароль на Валожыншчыне ў інтэлігентнай сям'і ( пра бацьку- Сымона Караля пісаў краявед Міхась Казлоўскі ў "Куфэрку Віленшчыны"). Сям'я Каралёў пераехала ў Вільню, калі Леваніду было дзевяць гадоў. Вучыўся ў Віленскай Беларускай гімназіі зазам з Лявонам Луцкевічам, Янкам Станкевічам і іншымі да яе закрыцця. Потым закончыў Віленскі ўніверсітэт, атрымаў дыплом хіміка. Працаваў у інстытуце этнаграфіі, дзе за 25 гадоў працы меў 17 ванаходніцтваў. Ён быў вельмі адукаваным, духоўна багатым чалавекам, дасканала валодаў беларускай, польскай, рускай, нямецкай і літоўскай мовамі, любіў музыку класічную, асабліва сімфанічную, ён мог, пачуўшы твор, безпамылкова назваць аўтара, шмат ведаў беларускіх песень, некалі спяваў у хоры беларускай гімназіі, ён з Л. Луцкевічам арганізавалі хор "Сябрына", быў бяззменным яго салістам, падбіраў рэпертуар, спяваў беларускія песні ў коле сяброў, калі збіраліся разам (Л. Луцкевіч, Кастусь Шышэня, Мікола Гулінскі; Хведар Нюнька, Зоя Коўшанка), на імпрэзах ТБК выконваў сольныя нумары. На вечары памяці слухалі жывы голас Л. Караля, запісаны на стужку літоўскімі журналістамі, глядзелі відэафільм "Экскурсія па могілках "Ліпоўка", якую праводзіў Леванід Сымонавіч на дзень святой Еўфрасінні Полацкай за год да смерці: Гэту відэастужку глядзелі ўпершыню. На Ліпоўцы знаходзіцца і царква св. Еўфрасінні Полацкай. Гэта старажытныя могілкі ў горадзе. Леванід Кароль быў вельмі набожным чалавекам. Акрамя таго ён быў выдатным агароднікам, у год часам збіраў па 200 кг. памідораў, толькі ружаў было 360 кустоў, што б ён не садзіў, у яго ўсё расло, усё ён рабіў з малітвай, Леванід Сымонавіч ствараў нейкую асаблівую аўру, з ім хацелася быць побач, да яго цягнуліся людзі, ад яго можна было пачуць шмат цікавага, у яго вучыліся, ён быў добрым дарадчыкам. З дня заснавання старонкі "Беларус Віленшчыны", Л. Кароль быў сябрам рэдкалегіі, сакратаром беларускай газеты "Рунь", ахвотна дзяліўся сваімі ведамі; ідэямі; асабліва, калі гэта датычылася беларускай справы. І ўсё гэта ён рабіў безкарысна, не шкадуючы ні сіл, ні часу, у ТБК быў ініцыятарам многіх ідэй і іх рэалізоўваў. У сваёй дзейнасці ТБК абапіраецца на багатыя традыцыі беларусаў Віленшчыны – папярэднікаў, таму шмат зрабілі для ўвекавечання іх памяці – мемарыяльныя таблiцы, помнікі на могілках. А ў ліпені 1999 года адкрылі помнік і Леваніду Каралю, аўтар вядомы беларускі скульптар Эдуард Падбярэзскі.



**Могілкі Ліпоўка. Магіла Леваніда Караля, стаіць скульптар Эдуард Падбярэзскі.**
**Фота Леакадзіі Мілаш.**

Леванід Кароль – глыба ў беларускім адраджэнні; хоць ён і быў сціплым у жыцці чалавекам, як і многія беларусы, але з тымі, каго ён ведаў, шчыра дзяліўся ведамі; стараўся кожнага выслухаць, не пакрыўдзіць, ён добра ведаў беларускую літаратуру, сам пісаў вершы, адзін з іх надрукаваны ў "Руні", спадзяёмся ў хуткім часе асобнай кнігай выйдзе зборнік яго вершаў. У Леваніда Сымонавіча была добрая бібліятэка, кнігі на тых мовах, якімі ён валодаў. Пра яго можна шмат гаварыць, у кожным з нас, хто яго блізка ведаў, хто разам з ім працаваў, ён пакінуў глыбокі след. На вечары памяці ўспамінамі пра Караля дзялілася яго спадарожніца жыцця Зінаіда Кароль, сын Андрэй, старшыня ТБК Хведар Нюнька, яго даўні сябар Кастусь Шышэня, Ніна Брылеўская, Леакадзія Мілаш.

У доме Л. Караля і, калі жылі яшчэ на Звярынцы, заўсёды было шмат гасцей, і сяброў, і тых каму ён дапамагаў выжыць і ўладкавацца, хто вярнуўся з сталінскіх лагераў, і потым – у новым мікрараёне Юсцінішкі. І на гэты раз сабраліся яго аднадумцы, прадаўжальнікі яго справы.

*Леакадзія Мілаш, г.Вільня.*

# Памятае Лідчына Купалу або імя Купалы ў гісторыі горада Ліды

У гісторыі Лідчыны таксама ёсць старонкі, пазначаныя светлым імем класіка беларускай літаратуры. Старажытныя вуліцы горада памятаюць яго крокі. У сэрцах многіх лідчан захаваўся незабыўны вобраз Янкі Купалы...

15 лютага 1940 г. рабочыя і службоўцы Лідскага чыгуначнага вузла на сваім першым перадвыбарным сходзе аднагалосна прапанавалі вылучыць кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР народнага паэта Беларусі Янку Купалу. Гэту прапанову падтрымалі ўсе працоўныя горада і раёна.

13 сакавіка 1940 г. Я. Купала прыехаў у Ліду на сустрэчу з выбаршчыкамі. Разам з ім прыехалі са сталіцы Пятро Глебка, Алесь Кучар, Зэлік Аксяльрод. Спыніліся пісьменнікі ў былым атэлі "Брыстоль" па вул. Сувальскай (цяпер вул. Савецкая). У Лідзе да іх далучыліся мясцовыя паэты Валянцін Таўлай, Ніна Тарас, Анатоль Іверс, Пятрусь Граніт (Іван Івашэвіч).

Першая сустрэча Купалы з выбаршчыкамі адбылася ў чыгуначным клубе. Убачыць і паслухаць народнага паэта сабралася каля 700 чалавек. Янка Купала, звяртаючыся да сваіх выбаршчыкаў, сказаў: "Я абяцаю вам сумленна служыць народу да канца маіх дзён. Да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі я спяваў аб горы беларускага народа, аб яго горкай нядолі. У Савецкай краіне я спяваю аб шчасці свабоднага народа, аб яго росквіце ў дружнай сям'і народаў СССР..."

Днём 14 сакавіка адбылася сустрэча Янкі Купалы з сялянамі Лідскага раёна ў былым кінатэатры "Эдысон". Давераная асоба кандыдата, пісьменнік Алесь Кучар, расказаў прысутным пра жыццёвы і творчы шлях народнага паэта. Я. Купала прачытаў некаторыя са сваіх вершаў на заходнебеларускія матывы.

У той жа дзень, 14 сакавіка, адбыўся вечар у гарадской бібліятэцы, якая цяпер носіць імя вялікага песняра. Янка Купала падарыў бібліятэцы сваю кнігу "Над ракой Арэсай" з цёплым надпісам. На жаль, гэтае купалаўская выданне ў бібліятэцы не захавалася. У адказ бібліятэкары падарылі яму зборнік вершаў Марылі Канапніцкай. Пазней паэт паклапаціўся аб папаўненні бібліятэчнага фонду. У траўні 1940 г. Лідская гарадская бібліятэка атрымала больш за 4 тыс. кніг на беларускай і рускай мовах.

15 сакавіка ў кінатэатры "Эра" (у гэтым будынку размяшчаўся гарадскі Дом культуры) адбыўся вялікі літаратурны вечар. З дакладам аб стане беларускай літаратуры выступіў Алесь Кучар. Свае вершы прачыталі Янка Купала, Пятро Глебка, Валянцін Таўлай, Анатоль Іверс, Пятрусь Граніт.

24 сакавіка 1940 года Янка Купала быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР ад Лідскай выбарчай акругі і яму ўручылі дэпутацкі білет № 306, які захоўваецца зараз у Літаратурным музеі песняра ў Менску.

У канцы сакавіка ў артыкуле "Маім выбаршчыкам", надрукаваным у газеце "Известия", Купала пісаў: *"Я глыбока ўдзячны маім выбаршчыкам-працоўным Лідскага раёна, якія аказалі мне высокі гонар, выбраўшы ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. Да канца маіх дзён я буду верна служыць народу, вялікай справе Леніна..."*.

Янка Купала заставаўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР ад Ліды да сваёй смерці ў 1942 годзе.

4 жніўня 1945 года Саўнаркам БССР і ЦК КП(б)Б прынялі пастанову "Аб увекавечанні памяці народнага паэта Беларусі Янкі Купалы ". Адным з пунктам яе было: ***"Прысвоіць імя Янкі Купалы гарадской бібліятэцы горада Ліды"***. На ўрачысты сход, прысвечаны прысваенню імя Купалы гарадской бібліятэцы, які адбыўся 18 верасня 1946 года прыязджалі пісьменнікі П. Глебка, У. Агіевіч, В. Таўлай і дырэктар Літаратурнага музея, жонка паэта, Уладзіслава Францаўна Луцэвіч.

У газеце "Уперад" 22.9.1946г. была апублікавана літаратурная старонка "Янка Купала -- вялікі змагар за ўз'яднанне беларускага народа:

28 чэрвеня 1947 года ў дзень пятай гадавіны з дня смерці Я. Купалы ў гарадской бібліятэцы адкрыўся памятны пакой, прысвечаны Я. Купалу. Там была арганізавана кніжная выстава і фотавыстава на тэму "Аб жыцці і творчасці Янкі Купалы" з фотаздымкамі і малюнкамі даваеннай Ліды. Аляксандр Каспяровіч, жыхар горада, мясцовы краязнаўца і мастак, зрабіў альбом "Янка Купала наш дэпутат". Пазней у 1956 годзе ён выехаў у Польшчу. У альбоме былі выразкі з газет, часопісаў, фотаздымкі, дзе ішла гаворка пра дзейнасць Я. Купалы як дэпутата па Лідскай-Слабадской акрузе.



**Экспазіцыя, разгорнутая ў Лідскай бібліятэцы да 120 - годдзя Янкі Купалы. На пярэднім плане кніга "Беларускі народны арнамент" з аўтографам У. Ф. Луцэвіч, жонкі Янкі Купалы.**

У Лідзе праходзяць вечары ўшанавання памяці пeняра (1956, 1962, 1972, 1982 ) грамадскасцю горада, арганізоўваюцца выставы, прысвечаныя жыццю і творчасці паэта.

29 чэрвеня 1956 года ў гарадскім Доме Культуры быў праведзены літаратурны вечар, на якім выступілі А. Астрэйка, М. Калачынскі, Р. Сабаленка, У. Ф. Луцэвіч ("Цётка Ўладзя"). Жонка Я. Купалы – Уладзіслава Францаўна падарыла бібліятэцы партрэт Купалы работы мастака В. Воўкава, і альбом "Беларускі народны арнамент" з дароўным надпісам і сваім аўтографам, а таксама некалькі тамоў яго выбраных твораў.

У 1982 годзе, калі адзначаўся 100 гадовы юбілей паэта па рашэнню ЮНЕСКА, у біліятэцы адбыўся літаратурны вечар, на які была запрошана супрацоўніца Літаратурнага музея Я. Купалы, пісьменніца, наша зямлячка Хрысціна Лялько. Яна прывезла фотаздымкі; распавяла аб малавядомых фактах з жыцця і дзейнасці Янкі Купалы, прачытала свае вершы і падарыла для бібліятэкі кнігу "Літаранурны музей Я. Купалы."

Імя Янкі Купалы носіць адна з вуліц нашага горада, на якой знаходзіцца гарадскі Дом культуры. На жаль, па прычыне частых рэканструкцый і перабудоў у горадзе вуліца не мае належнага прывабнага знешняга выгляду. Было б вельмі прыемна і пачэсна, каб памятны знак першаму дэпутату Лідчан у Вярхоўным Савеце і любімаму паэту быў устаноўлены таксама і ў нашым горадзе.

*У артыкуле выкарыстаны матэрыялы з мясцовай газеты "Уперад" (1972, 1980, 1982, 1992 г.г.), історыі бібліятэк г. Ліда "Гісторыя і сучаснасць", энцыклапедычнага даведніка "Янка Купала", (Мн... 1986 г.).*

***Т. Чайка,***
***загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу Лідскай гарадской бібліятэкі імя Янкі Купалы.***

**Старшыні Лідскага гарвыканкаму М. Чарнышову.**
**Старшыні Лідскага гарсавету А. Рамановічу.**

Шаноўны Мікалай Мікалаевіч!
Шаноўны Аляксандр Іосіфавіч!

Па даручэнні Лідскай гарадской рады ТБМ імя Францішка Скарыны звяртаюся да вас з наступным.

7 ліпеня 2002 года спаўняецца 120 гадоў з дня народзінаў народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Зацверджана дзяржаўная праграма святкавання гэтай даты. Нажаль, Ліда ў гэтай праграме не значыцца. Разам з тым у 1940 годзе Янка Купала быў абраны першым дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР па Лідскай-Слабадской выбарчай акрузе. З гэтай нагоды і дзеля ўшанавання памяці Янкі Купалы ў Лідзе, а таксама ў сувязі з 120-годдзем нараджэння вялікага песняра мы просім разгледзець наступныя варыянты:

1. Устанавіць на будынку гарвыканкаму мемарыяльную дошку "Янка Купала -- наш дэпутат". Прыймальна ўстаноўка такой дошкі на будынку бібліятэкі імя Янкі Купалы.

2. Надаць імя Янкі Купалы 14-й або 16-й слабадской школе з устаноўкай на ёй мемарыяльнай дошкі "Янка Купала -- наш дэпутат"

Акрамя таго просім спланаваць святкаванне 120-х угодкаў з дня народзінаў Янкі Купалы па лініі аддзела культуры і аддзела адукацыі з прыцягненнем сілаў шырокай грамадскасці...

**Старшыня Лідскай гарадской рады ТБМ імя Францішка Скарыны**
**7.05.2002г. С. Суднік.**

**Старшыні гарадской арганізацыі ТБМ**
**ім. Ф. Скарыны**
**Судніку С. В.**

На вашую заяву ад 07.05.2002 г. гарадскі выканаўчы камітэт паведамляе, што мемарыяльныя знакі ў памяць аб дзяржаўных дзеячах, выдатных прадстаўніках культуры ўстанаўліваюцца на будынках, дзе яны жылі і працавалі. У сувязі з гэтым, лічым немагчымым устаноўку мемарыяльнай дошкі ў памяць пра беларускага паэта Я. Купалу на будынку гарвыканкаму і іншых прапанаваных аб'ектах.

Разам з тым даводзім да вашвгв ведама, што да юбілея паэта абноўлена шыльда на будынку цэнтральнай бібліятэкі, што носіць яго імя. Акрамя таго, у горадзе будуць праходзіць мерапрыемствы, прысвечаныя 120-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Я. Купалы.

**Старшыня гарвыканкаму М. М. Чарнышоў.**
*(Пераклад з рускай.)*




***Што ж, дзякуй і за шыльду, калі большага Купала ў Лідзе не заслужыў.***

*Купала так і загінуў застаўшыся навечна дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР ад горада Ліды.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 24. 06. 2002 г.
Наклад 2700 асобнікаў. Замова № 1229.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.